THE SECRET HISTORY OF THE FOOT CLAN



«КЛАН ЮЎ».

«ПАД КІРАВАННЕМ ДАЙМЁ АШЫКАГА ЮЎ ГЭТА БЫЎ АДЗІН З НАЙСЛАВУТЫХ КЛАНАЎ ПЕРЫЯДУ МУРАМАЦІ».

«ВАЛОДАЮЧЫ ЗНАЧНАЙ ПАДТРЫМКАЙ АД САМУРАЯЎ, АШЫКАГА БЫЎ НА ДАКЛАДНЫМ ШЛЯХУ ДА СТАТУТА **СЁГУНА**. АЛЕ ЗАНЯЦЬ ТРОН ЯПОНІІ НЕ ПАСПЕЎ, БО БЫЎ ЖОРСТКА ЗАБІТЫ, А ПАСЛЯ СМЕРЦІ ЎВЕСЬ ЯГО КЛАН ПРОСТА... **ЗНІК**».

«ГІСТОРЫЯ НАМЯКАЕ, ШТО АШЫКАГІ ПРЫНЯЎ СМЕРЦЬ АД РУК АДНАГО З ЧАЛЬЦОЎ СВАЙГО Ж КЛАНА, ТАКЕШЫ ТАЦУО, МАЙСТЭРСТВА ВАЛОДАННЯ МЯЧОМ ЯКОГА МАГЛО БЫЦЬ ПАРАЎНАНА ТОЛЬКІ З УЛАСНЫМ **СЛАВАЛЮБСТВАМ**».

«ЗА КАРОТКІ ТЭРМІН, РЭПУТАЦЫЯ ТАЦУО ТАК ХУТКА ЎЗРАСЛА, ШТО НАВАТ НАСТАЎНІК АШЫКАГА ПАЧАЎ ЯГО **БАЯЦЦА**».

«А ТОЙ, ХТО ВЫРАШЫЎ СТАЦЬ СЁГУНАМ, НЕ МОГ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ **ТАКІ СТРАХ**...»

«...ТАМУ, АШЫКАГА АДПРАВІЎ ТАЦУО НА ЗАДАННЕ Ў ГОРЫ, ДАРУЧЫЎШЫ ЗАБІЦЬ РАБАЎНІКОЎ».

«ЗРАЗУМЕЛА, ГЭТА БЫЛА ПАСТКА».

«КАБ ВЫРАШЫЦЬ ПЫТАННЕ З АДНЫМ МУЖЧЫНАЙ, АШЫКАГА ДАСЛАЎ ЛЕГІЁН ВОЙНАЎ».








«ДЛЯ ЗВЫЧАЙНАГА ЧАЛАВЕКА НА ГЭТЫМ УСЁ Б І СКОНЧАЛАСЯ».














«...ЯНА СКОНЧЫЛАСЯ ПАЯДЫНКАМ АДНАГО СУПРАЦЬ УСІХ».















«РЭШТКІ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ БЫЛІ АДПРАЎЛЕНЫЯ ЗА ТАКЕШЫ ТАЦУА, БЫЛІ ЗНОЙДЗЕНЫЯ ПАСЛЯ РАСТАВАННЯ СНЕГУ».

«ЛІЧЫЛАСЯ, ШТО ТАКЕШЫ ТАКСАМА НЕ ВЫЖЫЎ».

«БО ХТО **ЗМОГ** БЫ?»









БІТВА... ЯК...? Я... СТОП... Я АДЧУВАЮ...

«ПАКУЛЬ АШЫКАГА ЮЎ РАЗДЗІРАЎСЯ ЧУТКАМІ АБ РАТАВАННІ ТАЦУА, ЯНЫ ПАЧЫНАЛІ КАЗАЦЦА ПРАЎДЗІВЫМІ З-ЗА ЧАРГІ ЖУДАСНЫХ НАПАДАЎ НА ЯГО ЛЮДЗЕЙ».

«ПРАЗ ЧАС, МОЦ І ЎПЛЫЎ АШЫКАГА ЗЫШЛІ ДА НЯЗНАЧНАСЦІ, І Ў ВЫНІКУ, ЁН БЫЎ ЗНОЙДЗЕНЫ **ЗАБІТЫМ** У СВАІМ ЛОЖКУ».

..ЦЭЛАЯ!

«У ТОЙ ДЗЕНЬ КЛАН ЮЎ БЫЎ **ЗНІШЧАНЫ НАЗАЎСЁДЫ**, І ПОМСТА ТАКЕШЫ ТАЦУА ЗДЗЯЙСНІЛАСЯ».

МОЖА СТАЦЬ СЮЖЭТАМ ДОБРАГА ФІЛЬМУ, ЦІ НЕ ТАК? НІНЗЯ І САМУРАІ, ХЛУСНЯ, ЗДРАДА І ПОМСТА... ЯК І НАЛЕЖЫЦЬ **ПАДАННЯМ**!

АЛЕ ПАДАННІ ЧАСЦЯКОМ НАРАДЖАЮЦЦА З ПРАЎДЫ, ПОШУКІ ЯКОЙ МОГУЦЬ ПРЫВЕСЦІ ВАС У НЕЧАКАНЫЯ МЕСЦЫ, НАКШТАЛТ **ТАЕМНЫХ ХРАМАЎ**.

In Search of NINJA by Dr. Patrick Miller

Я СУТЫКНУЎСЯ З УСІМ ГЭТЫМ, КАЛІ ШУКАЎ КЛАН ЮЎ. ЗАРАЗ ХРАМ АБРОС МНОСТВАМ МЯСЦОВЫХ ЗАБАБОНАЎ, АЛЕ ТАК І ЗАСТАЎСЯ БЕЗЫМЕННЫМ...




МОЖА ГЭТА З-ЗА ЯГО ГАРАЧЫХ ПРАДМОЎ? НЯ ВЕДАЮ, АЛЕ ЎРОК ГІСТОРЫІ НЕ ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТАКІМ ЗАЙМАЛЬНЫМ.

ЗАЙМАЛЬНЫ, АГА.

...І ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПРЫНЕСЛА ПЛАДЫ! МЫ ЎЗНАВІЛІ МНОСТВА РЭЧАЎ, У ТЫМ ЛІКУ КАВАЛАК, ПРЫБЛІЗНА, ВЯЛІКАГА ТЭКСТА: АШЫ НО ХІМІЦУ...

ТАЙНА ФУТ.

CLICK




In Search of
NINJA
by Dr. Patrick Miller
СТАРОНКІ, ЯКІЯ ВЫ БАЧЫЦЕ, АЗНАЧАЮЦЬ АШЫ НО ХІМІЦУ ЯК УСЁАБДЫМНУЮ ГІСТОРЫЮ ПАРАДКАЎ НІНЗЯ, КЛАНА ФУТ.
МЫ ДАВЕДАЛІСЯ АБ ДЭТАЛЯХ ІХ УПЛЫВУ НА ПАЛІТЫКАЎ У ТЫЯ ЧАСЫ, АБ ЛЕКАВЫХ ПРЭПАРАТАХ, НЕВЯДОМЫХ СУЧАСНАМУ ЧАЛАВЕКУ, НАМ ТРАБІЛІСЯ НАВАТ МАГЧЫМЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ВАЛОДАННІ ЧОРНАЙ МАГІЯЙ... І ЗНОЙДЗЕНАЕ – ТОЛЬКІ ЧАСТКА ЦЭЛАГА.
АЛЕ, МАБЫЦЬ, ВЫ ПЫТАЕЦЕ СЯБЕ, ЯКІЯ АДНОСІНЫ ГЭТЫ МАНУСКРЫПТ МАЕ ДА КЛАНА ЮУ? ДЗЕ СУВЯЗЬ, АГУЛЬНЫ СТРЫЖАНЬ?
ТАКЕШЫ ТАЦУА.
ГЭТЫЯ СТАРОНКІ НАПІСАНЫ ТАКЕШЫ ТАЦУА, ПРАЗ ГОДЫ ПАСЛЯ АПОШНЯГА ЎЗГАДВАННЯ АБ ІМ У ЯКІМ БЫ ТА НІБЫЛА ГІСТАРЫЧНЫМ ДАКУМЕНЦЕ.


А НУ-КА, СТОП. ЯШЧЭ РАЗ. ЯК КЛІЧУЦЬ ШРЭДАРА?
АРОКУ САКІ.
...ГЭТА ДАКЛАДНА?
НЕ СУМНЯВАЙСЯ.


ТОЕ, ШТО ТАЦУА СФАРМІРАВАЎ КЛАН ФУТ З РЭШТКАЎ КЛАНА ЮУ, ПАСЛЯ СМЕРЦІ АШЫКАГІ, ЛЯЖЫЦЬ У МЕЖАХ МАГЧЫМАГА... АЛЕ ШТО МЫ ВЕДАЕМ ПРА КЛАН ФУТ? ЯКАЯ БЫЛА СТУПЕНЬ ІХ УПЛЫВУ ДА АНАЛАГІЧНАГА ВЫМІРАННЯ?
ЦЫЦ.
ДА ВЫМІРАННЯ, ГАВОРЫШ, НУ-НУ.
АШЫ НО ХІМІЦУ ПАДКАЗВАЕ, ШТО САПРАЎДНАЯ ТАЙНА МОЦЫ ФУТ ЛЯЖЫЦЬ У АСНОВЕ ЗВЯЗУ З КІЦУНЭ, ПА ЧУТКАХ, ВЕДЗЬМАЙ.
З ГЭТАГА ЗВЯЗА ТАКЕШЫ ТАЦУА ВЫНЕС НЕШТА, ШТО ПРЫВЯЛО ЯГО ДА СЛУЖЭННЯ ЯЕ ЗАСТУПНІКУ, ЖУДАСНАМУ І МАГУТНАМУ ТЭЦУ ОНІ – ЖАЛЕЗНАМУ ДЭМАНУ...






TUD!

ОЎ!

ТЫ ЗАЎСЁДЫ ПАВІНЕН ПІЛЬНА САЧЫЦЬ ЗА ТЫМ, КУДЫ БЯЖЫШ, ЯК І ЗА ТЫМ, АД ЧАГО БЯЖЫШ. А ЗАРАЗ ІДЗІ.




ТАБЕ ПАШЧАСЦІЛА, ШТО НІХТО З АСТАТНІХ НЕ ЎБАЧЫЎ.
ГЭТА АГІДНА, МАСАТА. ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ НЕ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ НАШАЙ МЭЦЕ. ПРАЛІВАННЕ ІХ КРЫВІ НЕ РОБІЦЬ ГОНАРУ.


Я РАДЫ, ШТО НЫШЫЯ ДУМКУ АДНОЛЬКАВЫЯ, АРОКУ МЕЙДЗІ. ГЭТА УТРАПЁНАСЦЬ НІКОМУ ДАБРА НЕ НЯСЕ.
THRAKK




ВЫХОДЗЬ, ЖАНЧЫНА. ХАВАЦЦА ТУТ НЕ НЕБЯСПЕЧНА.


МНЕ ВЯДОМЫ ФАКТ, ШТО, МНОГІЯ Ў КЛАНЕ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ КІРАВАННЕ ЛОРДА ТАКЕШЫ, АЛЕ ЯНЫ БАЯЦЦА ЯГО НЕЗЯМНОЙ МОЦЫ... ЯК І Я.
МЕЙДЗІ, ЯШЧЭ МОЙ ДЗЕД СЛУЖЫЎ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ТАКЕШЫ. І ЗДАЕЦЦА, БЫЦЦАМ НАШ СПАДАР НЕ ПАСТАРЭЎ НІ НА ДЗЕНЬ.
МАГЧЫМА, АЛЕ ЧУТКІ ПРАЎДЗІВЫ, І ЯГО САЮЗНІКІ - ГЭТА...


...ДЭМАНЫ!







ВОСЬ ШТО БЫВАЕ, СПАДАР ДАЙСУКЕ, КАЛІ СПРАБУЕШ НЕ ПРЫЗНАВАЦЬ БОГА.
ВАМ ТРЭБА БЫЛО ПРОСТА АДДАЦЬ ФУТ ГЭТЫЯ ЗЕМЛІ БЕЗ СУПРАЦІВУ... І, МАГЧЫМА, ТАДЫ Я Б ПРАЯВІЎ ЛІТАСЦЬ.

ТЫ НЕ ЗДОЛЬНЫ НА ЛІТАСЦЬ, ТАКЕШЫ ТАЦУА, І ТЫ НЕ БОГ.
НЕ ПРЫЗНАВАЦЬ ЦЯБЕ – СПРАВА МАЙГО ГОНАРУ.

ХА, ПАГЛЯДЗІ НАВОКАЛ І ПАБАЧ, ШТО ТВОЙ ГОНАР ТАБЕ ПРЫНЕС, ДАЙСУКЕ.
А, КІЦУНЭ...

RRRR

...НАШЫЯ СПРАВЫ ТУТ ЗАВЕРШАНЫ. ТЫ МОЖАШ ПЕРАДАЦЬ ЖАЛЕЗНАМУ ДЭМАНУ, ШТО ЗЕМЛІ, ЯКІЯ ТАК ПРАГНУЎ ЁН, УЖО ЗАХОПЛЕНЫЯ.

Я... РАДА ЧУЦЬ ГЭТА, ЛОРД ТАКЕШЫ.

МЕЙДЗІ, ТЫЯ ЧУТКІ... ГЭТА **ПРАЎДА**!


Я ПРОСТА КАЖУ, ШТО ТРЭБА З ІМ ПАГУТАРЫЦЬ, ВОСЬ І ЎСЁ. МАГЧЫМА, У ЯГО ЁСЦЬ КУДЫ БОЛЬШ ІНФАРМАЦЫІ АБ КЛАНЕ ФУТ... ТАМ МАГЛО Б АКАЗАЦЦА НЕШТА КАРЫСНАЕ ДЛЯ РАБЯТ.
НУ, НЯ ВЕДАЮ. ШТО СКАЖАМ? «ДЗЕНЬ ДОБРАНЬКІ, МЫ ЖАДАЕМ ЗІРНУЦЬ НА ВАШ КАШТОЎНЫ, СТАРАЖЫТНЫ НІНЗЯ-ХЛАМ, БО ЁСЦЬ У НАС ЧУВАК, ЯКІ АПРАНУЎСЯ З МЁРТВЫХ...»


...ТАК ЦІ ІНАЧАЙ, З ЧАГО ТЫ ЎЗЯЛА, ШТО Ў ЯГО МОЖА БЫЦЬ ЯШЧЭ НЕШТА КАРЫСНАЕ?
ЯНО ЁСЦЬ.


НЕНАВІДЖУ, КАЛІ ВЫ ТАК РОБІЦЕ!
НУ, МЫ Ж НІНЗЯ, СЯБАР. ГЭТА ЎЖО ЗВЫЧКА.
А ЧАМУ ТЫ ТАК УПЭЎНЕНЫ, ЛЕА? ВЫ ВЕДАЕЦЕ НЕШТА, ЧАГО НЕ ВЕДАЕМ МЫ?


НЕ, ПРОСТА... АДНОЙЧЫ Я ПРАЧЫТАЎ: «КАЛІ ТЫ ВЕДАЕШ ВОРАГА ТАК ЖА ДОБРА, ЯК СЯБЕ, ТАДЫ ПЕРАМОЖАШ У СОТНІ БІТВАЎ».
КАЛІ ДАВЕДАЕМСЯ АБ ЧЫМСЬЦІ, ШТО ДАПАМОЖА СПАЗНАЦЬ НАШАГА ВОРАГА – ГЭТА КАРЫСНА.


ДОКТАР МІЛЕР? У ВАС ЁСЦЬ НЯШМАТ ЧАСУ ДЛЯ МЯНЕ?
ПРАБАЧЦЕ, ЮНАЯ ЛЕДЗІ, АЛЕ Я ТРОШКІ СПЯШАЮСЯ...
ТАДЫ Я БУДУ ХУТКА.


Я ПРАДСТАЎНІК ПРЫВАТНАЙ АСОБЫ, ЯКАЯ ПАДЗЯЛЯЕ ВАШ ІНТАРЭС ДА АШЫ НО ХІМІЦУ, ПА СУТНАСЦІ, ГЭТЫ ЧАЛАВЕК... ВАЛОДАЕ НЕКАТОРЫМІ СТАРОНКАМІ КНІГІ, І ВАША АЦЭНКА БЫЛА Б ЯМУ ВЕЛЬМІ ПАТРЭБНА.







МОЙ МАЙСТАР МАСАТА РАСКАЗВАЎ МНЕ ПРА КІЦУНЭ І ДЗЯСІГОДДЗЯХ ЦЯМРЭЧЫ, ПЕРАЖЫТЫХ КЛАНАМ ФУТ У ПЕРЫЯД ЗВЯЗУ З ЁЙ...

«...ЦЯМРЭЧЫ, ЯКАЯ РАССЕЯЛАСЯ ТОЛЬКІ КАЛІ АРОКУ МЕЙДЗІ ЎЗНЯЎ БУНТ ЗА СВАБОДУ КЛАНА АД МОНСТРА, ЯКІ ЗАСНАВАЎ ЯГО».




ГЭТА АДБЫВАЕЦЦА АДЗІН РАЗ У МЕСЯЦ, БРАТЫ, І ЗАЎСЁДЫ ПАД ЧАС ПОЎНІ.

ЛОРД ТАКЕШЫ ЗАЧЫНЯЕЦЦА, ПАКУЛЬ ВЕДЗЬМА АДПРАЎЛЯЕЦЦА НА ЗАХАД З ПУСТОЙ ТОРБАЙ. ПРАЗ ДВА ДНЯ ЯНА ВЯРТАЕЦЦА З ПОЎНАЙ І ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ГЭТАГА ЁН ВЫХОДЗІЦЬ.
ЦІКАВА, ЧАМУ?
ГЭТА СПОСАБ ЯЕ ВЯДЗЬМАРСТВА. НАПЭЎНА, ЯНА ПРЫНОСІЦЬ ЯМУ СІЛУ АД ДЭМАНА, ЯКОМУ СЛУЖЫЦЬ.

НАШЫЯ ВОЙСКІ ГАТОВЫ – НАПАДЗЕМ ЗАРАЗ ЖА!
АЛЕ ВЕДЗЬМА ВЯРНУЛАСЯ, РО. УСЁ РОЎНА, ШТО ЯНА НОСІЦЬ ТАКЕШЫ – ЁН УЖО ГЭТА АТРЫМАЎ.
І КОЛЬКІ Ж МЫ БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ?
НАМ НЯ ТРЭБА СПЯШАЦЦА...

...Я ХАЧУ ДАВЕДАЦЦА, ЯКІ ЗАКЛЁН НАКЛАДВАЕ ВЕДЗЬМА, ПЕРАД ТЫМ, ЯК МЫ НА СВАЁЙ СКУРЫ ПАСПЫТАЕМ ЯЕ СІЛУ.

«У НАСТУПНЫМ МЕСЯЦЫ».

Я СТАМУЎСЯ, КІЦУНЭ.

ГЭТА ЎСЯГО ТА АДГАВОРКА СТАРЫКА. ВЫПЕЙ ГЭТЫ ЭЛІКСІР, МОЙ СПРАДАР, І ТВАЯ СТОМЛЕНАСЦЬ УЙДЗЕ Ў МІНУЛАЕ.

Я СТАМІЎСЯ ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА ВОЛІ ТВАЙГО ДЭМАНА, КАБ ПАДАЎЖАЦЬ САБЕ ЖЫЦЦЁ.

РАБСТВА – ГЭТА ЗАНАДТА ВЯЛІКІ КОШТ ЗА НЕЎМЯРУЧАСЦЬ.

ПАВІННА БЫЦЬ НЕЙКАЕ АДНОЛЬКАВАЕ РАШЭННЕ... Я АДМАЎЛЯЮСЯ ТАК ПРАЦЯГВАЦЬ!

Я Ў ПОШУКАХ, СПАДАР. НА ГЭТА ПАТРЭБНЫ ЧАС, АЛЕ ЁН НА НАШЫМ БАКУ.

МЫ ЗНОЙДЗЕМ ВАМ СПОСАБ ЛЕПШЫ, КЛЯНУСЯ.

«МЕЙДЗІ ЎБАЧЫЎ ТАЙНУ МОЦЫ ТАКЕШЫ, І ПАБУДАВАЎ СТРАТЭГІЮ – ІМГНЕННАЕ НАПАДЗЕННЕ...»

«...У НАСТУПНЫМ МЕСЯЦЫ ДА ТАГО, ЯК ТАЦУА ЗМОГ БЫ ЗАВЕРШЫЦЬ ПЕРАТВАРЭННЕ».
KRTHAK
ТАКЕШЫ ТАЦУА! СМЕРЦЬ ПРЫЙШЛА ДА ЦЯБЕ Ў ГЭТУЮ НОЧ!
ШТО?!
ЗЕЛЛЕ...
НЕ!
ТА АДКАЖЫШ ЗА ГЭТА ПАДСТУПСТВА, АРОКУ МЕЙДЗІ!
CH-KRRKLE
ВЫ ЎСЕ АДКАЖЫЦЕ!
RRRR
Я РАЗБЯРУСЯ З ТАКЕШЫ, МОЙ СЯБАР, КАЛІ ТЫ НЕ ДАЗВОЛІШ ВЕДЗЬМЕ ЎЧАПІЦЦА МНЕ Ў ГОРЛА.
АЛЕ НЕ ЗАБІВАЙ ЯЕ. ПАКУЛЬ.
ЗДРАДНІК! ЗА ГЭТА Я ВЫРВУ ТВАЕ ВОЧЫ!
ТАЦУА, ТЫ САМ ЗДРАДЗІЎ СВАЙМУ КЛАНУ, КАЛІ ЗАСЯБРАВАЎ З ДЭМАНАМІ...
НЕ ПАДЫХОДЗЬ, ВЕДЗЬМА... ДВОЙЧЫ Я ПАЎТАРАЦЬ НЕ БУДУ. ГЭТА НЕ ТВАЯ БІТВА.


ТЫ НЕ ВЕДАЕШ НІЧОГА, ЮНАК! УСЕ МАЕ СПРАВЫ БЫЛІ Ў ГОНАР КЛАНА ФУТ!
KTANG
ГОНАР – НЕ САМАЯ ВАЖНАЯ РЭЧ, ЛОРД ТАКЕШЫ. І ТЫЯ З НАС, ХТО МАЮЦЬ ТОЛЬКІ АДНО ЖЫЦЦЁ ЎЖО ВЕДАЮЦЬ ПРА ГЭТА.


TOOK
ГОНАР – ТОЕ, ШТО САПРАЎДЫ МАЕ ЗНАЧЭННЕ. ТОЕ, ШТО ПРАБАЧЦЕ, НАША.


НЕ!
А ТВОЙ ШЛЯХ УЖО ДАСТАТКОВА ЗГАНЬБІЎ НАС.
SZHASH
РРРРЫЫЫ!
ТЫ НЕ ВЕДАЕШ, ШТО НАРАБІЎ, АРОКУ МЕЙДЗІ!
Я ЎЗНАВІЎ ГОНАР КЛАНА ФУТ, ВЕДЗЬМА, І ЗАБІЎ ТАГО, ХТО ПАВІНЕН БЫЎ БЫЦЬ МЁРТВЫМ ДАЎНЫМ-ДАЎНО.
ГОНАР? НЕ, ГАНЬБУ ТЫ НАКЛІКАЎ НА НАШ ДОМ... І ЯШЧЭ ЎЗГАДАЕШ МАЕ СЛОВЫ, ХЛОПЧЫК: ТАКЕШЫ ТАЦУА АДПОМСЦІЦЬ.
XCRASH
...А ТВОЙ ДОМ СТАНЕ ТАБЕ ТРУНОЮ!


З ТАГО ДНЯ АБОДВА МАЙСТРА – МЕЙДЗІ І МАСАТА – ВЯРНУЛІ КЛАН ФУТ НА ШЛЯХ ГОНАРУ. ШЛЯХ, ЯКІ Я БЫЎ ШЧАСЛІВЫ ПРАЙСЦІ З ІМІ.
Я ДА ГЭТУЛЬ ЗБЯНТЭЖАНЫ: ЯК РАДНЫ СЫН МЕЙДЗІ МОГ СТАЦЬ ТЫМ, ХТО ВЯРНУЎ КЛАН ДА ЦЁМНАГА ШЛЯХУ ЯГО ЗАСНАВАЛЬНІКА...
ГЭЙ, А МОЖА ТАГО ХЛОПЧЫКА ШАНДАРАХНУЛА ГЭТАЙ ЧОРНАЙ МАГІЯЙ, ПРА ЯКУЮ КАЗАЎ ВУЧОНЫ?


ОХ, ДЫ ЛАДНА... ГЭТАМУ ПАВІННА БЫЦЬ ЛЕПШАЯ ТЛУМАЧЭННЕ, ЧЫМ МАГІЯ.
АГА, БО МАГІЯ ЗДОЛЬНА ЗРАБІЦЬ З БАБЫ ГІГНЦКУЮ ЛІСУ, АЛЕ ЯНА **НІКОЛІ Б** НЕ ЗМАГЛА ПРЫМУСІЦЬ СТАЦЬ ЗЛЫМ ЦІ ЯШЧЭ КІМСЬЦІ.


ХЛОПЦЫ, ХВІЛІНУ ЎВАГІ. Я ЎСЁ ЯШЧЭ ДУМАЮ, ШТО ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ З МІЛЕРАМ І ВЫСВЯТЛІЦЬ, ШТО ЯЧШЭ Ў ЯГО ЁСЦЬ ПРА КЛАН ФУТ.
НЯ ВЕДАЮ... У МЯНЕ НА ЯГО КОНТ ДУРНОЕ ПРАДЧУВАННЕ.
ДЫ СУПАКОЙСЯ, КЕЙСІ. З'ЕЗДЗІМ ЗАЎТРА ДА ЯГО Ў ОФІС, ХУТКА І ПРОСТА!


ІНТУІЦЫЯ – ГЭТА ВАЖНА, КЕЙСІ, АЛЕ Я ВЫМУШАНЫ ЗГАДЗІЦЦА З ЭЙПРЫЛ: БУДЗЕ РАЗУМНА ТАК ПАСТУПІЦЬ.
Я БЫ ТАКСАМА ПАЕХАЎ. ХАЧУ ПАЗНАЦЬ БОЛЬШ.
ЗАБАЎЛЯЙСЯ, ЛЕА, А НА МНЕ ВІСІЦЬ МАЛЕНЬКІ ПРАЕКТ, ЯКІМ Я І ЗАЙМУСЯ.
АГА, А МЯНЕ ГІСТОРЫЯ НАОГУЛ ЗАСМУЧАЕ.


РАФ, ЧУВАК, Я БЫЦЦАМ ПСІХ, КАЛІ ЎСІХ ПАДАЗРАЮ?
ДЫ НЕ. ТРЭБА ВЕРЫЦЬ САБЕ, ЧЭЛ.
ДЗЕКУЙ, БРАТАЧКА.
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, КЕЙСІ. ВІДАЦЬ, ЛЮБЫ ТАКІ ХЛОПЕЦ – З ФУТ...


«...ТАМУ Я ТАКСАМА МАЮ ПАДАЗРОНЫ».
З НІАДКУЛЬ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ЗАГАДКАВАЯ ЖАНЧЫНА І ЗАЯЎЛЯЕ, ШТО МАЕ ДОСТУП ДА СТАРОНАК АШЫ НО ХІМІЦУ.


МОЖА ГЭТА РОЗЫГРЫШ? ЦІ ПАВІНЕН Я ЁЙ ДАВЯРАЦЬ?


АРОКУ КАРАІ
555-55-22
ЦІ ЁСЦЬ У МЯНЕ ВЫБАР?
"REGENERATION"
(EXTEND LIFE SPAN!!)


CLICK




Я ДАСТАВІЛА ЯМУ ЗАПРАШЭННЕ, МАЙСТАР, АЛЕ НЕ РАЗУМЕЮ, ЧАМУ ТЫ ПАКІДАЕШ ЯГО ЖЫВЫМ. ГЭТЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ МОГУЦЬ ВЫКРЫЦЬ НАС..!
ТЫ АСПРЭЧВАЕШ МАЁ **РАШЭННЕ**..?
**НЕ**, МАЙСТАР.


МАГУ ДАЦЬ ТАБЕ ЗАБІЦЬ ЯГО ПАЗНЕЙ, АЛЕ ЗАРАЗ НАВАТ **КРАНАЦЬ НЕ ДУМАЙ**. ЦЯПЕР ІДЗІ.
У ЯГО **ВОСТРЫ** РОЗУМ, КАРАІ. ІНАЧАЙ ЁН НЕ ЗВЕДАЎ БЫ СТОЛЬКІ ЎСЯГО ПРА КЛАН ФУТ.
МЫ ПРЫЦЯГНЕМ ЯГО І НАКІРУЕМ ГЭТЫ РОЗУМ НА ТОЕ, ШТО ЦІКАВІЦЬ МЯНЕ.
ТАК, МАЙСТАР.

МАЙСТАР... ЧЫМ ГЭТЫ ЧАЛАВЕК ТАК КАШТОЎНЫ, ШТО ТЫ ПАШКАДАВАЎ ЯГО?
ЁН ВАЛОДАЕ НАВЫКАМ ІСЦІ ПА СЦЯЖЫНАМ, СХАВАНЫХ ЗА МЯЖАЙ ЧАСУ.

МАЙСТАР? Я НЕ РАЗУМЕЮ.
МОЦ, АЛОПЕКС. Я ШУКАЮ МОЦ, ЯКОЙ КЛАН ФУТ НІКОЛІ НЕ ПАВІНЕН БЫЎ **ПАЗБАЎЛЯЦЦА**. І НЯХАЙ ДАПАМОГУЦЬ БОГІ ГЭТАМУ ЧАЛАВЕКУ, КАЛІ ЁН МНЕ ЯЕ НЕ ЗНОЙДЗЕ.




ПАЧУЙ МОЙ КЛІЧ І ВЕДАЙ, ШТО Я ПРЫЙШЛА ЗАБРАЦЬ СІЛУ З ГЭТАГА МЕСЦА.

КЛАН ФУТ БЫЎ УЗУРПАВАНЫ, І Я АБАВЯЗАНА БЫЦЬ ГАТОВА, КАЛІ ВЫРАШЫЛА ЗДЗЯЙСНІЦЬ СВАЮ **ПОМСТУ**.


ЗАРАЗ Я НЕ МАГУ ДАЦЬ ТАГО, ШТО ТЫ ПАТРАБУЕШ, АЛЕ КЛЯНУСЯ... НАША ПАГАДНЕННЕ БУДЗЕ НЕПАРУШНА.

